# З жыцьця Польшчы.

### Польшча тлумачыцца.

28 лістападу польскі ўрад выслаў ноту ўсім дзяржавам з каторымі яна мае дыплёматычныя зносіны. У сваей ноце Польшча заяўляе, што ня мае ніякіх замераў пагражаючых незалежнасьці і тэрытор'яльнай цэласьці літоўскай рэспублікі. Адзіным жаданьнем Польшчы ёсьць тое, каб завязаць з літоўскім урадам найболей мірных нармальных адносінаў суседніх.

### Новы паштова-тэлеграфны тарыф.

Ад 1 сьнежаня ў Польшчы ўведзяны новы паштовы і тэлеграфны тарыф:

Звычайнае пісьмо ў межах Польшчы (вагаю да 20 грамаў) аплачваецца 25 грашамі, паштовая картачка (аткрытка) — 15 грошаў, заказное пісьмо даражэй на 40 грошаў, друкі (да 25 грамаў вагі) — 5 грошаў, за адно слова тэлеграмы — 15 грошаў.

Звычайнае пісьмо за граніцу аплачваецца 50 грашамі (ў Вэнгрыю, Аўстрыю, Чэмаславакію і Румынію — 40 грошаў), паштовая картачка — 30 грошаў (у Вэнгрыю, Аўстрыю, Чэхаславакію і Румынію — 25 грошаў), заказное пісьмо даражэй на 50 грошаў.

### Кампрэмітацыя Карфантага.

28 лістападу закончыўся Маршалкаўскі Суд над паслом у Сойм Карфантым — прадстаўніком і абаронцам капіталістычнае палітыкі ў Польшчы. Суд, каторы цягнуўся нешта каля 10 дзён, прызнаў, што:

Карфанты атрымліваў ад капіталістаў і прамыслоўцаў Горнага Шлёнску вялікія субсыдыі (дапамогі) на газэту „Rzeczpospolita“, што недастойна пасла і публіцысты.

Карфанты, як старшыня Надзорчай Рады Шлёнскага Банку, паступаў нязгодна з правіламі права і добрымі звычаямі.

### Трафная ўвага.

Польская газэта „Robotnik“ піша, што Акружны суд у Влацлаўку ў адзін і той-жа дзень, у адным і тым-жа складзе судзьдзяў асудзіў: абшарніка Ківрэскага на 1½ года крэпасьці, а хлапца Вянхоўскага на 1 год цяжкага вастрогу.

Абшарнік Ківрэскі ў абароне свайго гонару застрэліў 17 гадовага хлапца, а хлапец Вянхоўксі хацеў украсьці з кішані купца 50 зл.

Гэта, ужо ня трэба лепей, паказвае чые суды ў Польшчы і для каго яны істнуюць, робіць гэтакую ўвагу „Работнік“.

---

урадоўцы і работнікі. Можна было-б вывозіць болей земляробскіх прадуктаў заграніцу. Ад гэтага было-б карысьней і наагул дзяржаве. Бо тагды дзяржава мела-б замежны гандаль бяз убытку (аб гэтым мы ўжо пісалі).

Чаму-ж гэта так здараецца, што ўрад прыходзячы з дапамогаю ўрадоўцам забываецца аб сялянстве? А таму, што ўрадоўцы з'арганізаваныя ў свой саюз і заўсёды супольнымі сіламі дамагаюцца ад ураду палепшаньня свайго жыцьця. Сялянства-ж хоць і мае адпаведныя арганізацыі але-ж не бярэ ў іх масавага ўдзелу. А дзеля гэтага, будучы запраўды сілаю фактычна не праяўляе яе. Кіруючыя-ж сфэры ня маюць здольнасьці, самі без націску з боку, уясьніць сутнасьць справы.

У гэтакай плошчы павінна-бы выглядаць справа ў тым сялянстве, якое мае сваю нацыянальную дзяржаву. Дзякуючы-ж таму, што Беларускі Народ ня мае сваей нацыянальнай улады, дык беларуская сялянская арганізацыя мае зусім інакшыя, больш шырокія, заданьні. Баронячы сваё сацыяльнае палажэньне, беларускае сялянства мусіць змагацца і за свае нацыянальныя ідэалы. А дзеля таго, што гэтыя ідэалы ня зьдзейсьнены, беларускае сялянства вельмі многа церпіць. А чаму? Таму, што возьмем для прыкладу селяніна—Паляка і Беларуса. Што-ж мы ўвідзім? Мы ўвідзім, што польскі ўрад насадзіў некалькі тысячаў асаднікаў і каляністых на нашых землях, даючы кожнаму запамогу для загаспадараваньня. Вось чаму беларускае сялянства павінна зразумець трагэдыю свайго палажэньня і масава гарнуцца да сваіх сялянскіх арганізацыяў (у даным выпадку да Беларускага Сялянскага Саюзу). Гэта будзе карысным перадусім дзеля таго, што калі польскі ўрад будзе ведаць, што арганізацыя масавая, дык будзе лепей лічыцца з арганізацыяй і заўсёды хутчэй пойдзе на ўступкі карысныя нашаму сялянству. А дзеля таго, што беларускае сялянства зьяўляе сабою 90 проц. Беларускага Народу, дык будучы арганізаваным, яно зможа лягчэй дабіцца направы і ў іншых галінах жыцьця. А калі так, дык з часам магло-б узяцца з пасьпехам за рэалізацыю і зьдзейсьненьне сваіх нацыянальных ідэалаў і дасягнула-б да сваіх мэтаў.

Сёньняшнюю ўвагу нашага вока, якое глядзела па сьвеце заняла вышэй абгавораная справа. Аднак-жа нельга на гэтым кончыць... Хочацца адразу пераскочыць далёка — далёка дзе месьціцца „жоўтая небясьпека“, хочацца пагаварыць яшчэ сёньня аб Кітаі. Бяручы агулам справу, дык там у Кітаі нічога не перамянілася. Кітайцы самі паміж сабою так дзяруцца, што толькі пер'е ляціць, але-ж у гэтым, уся важкасьць у тым, што ніякага ня толькі канца, але-ж і ладу няма. Нават трудна, ды і немагчыма, разабрацца хто каго ды як б'е. Дзеля таго што ў Кітаі стварыўся такі нялад, што немагчыма ў ім што колечы зразумець, дык на'т ужо і пішуць аб ім мала. Калі-ж мы ізноў паднялі гэтую справу, дык толькі дзеля таго, што нашоўся адзін чалавек, які даў (трафную ці не) характарыстыку сучаснага палажэньня у Кітаі. Чалавекам тым ёсць польскі паўнамоцны дэлегат.

Пан дэлегат, паміж іншым сказаў, што ўвесь Кітай вельмі многа ўцярпеў і цярпіць з прычыны хатняе вайны. Вайна спарадзіла маральны ўпадак і наагул дрэнна адбілася на кітайскія грамадзкія звычаі. Аднак-жа ў гэтым хаосе (нялядзе) даецца заўважыць і такія праявы, якія параджаюць добрыя надзеі якімі зьяўляюцца ўзрост кітайскага патрыятызму (любасьць да сваей дзяржавы, народу і наагул да ўсяго роднага), нацыянальнае пачуцьцё, якога дагэтуль Кітайцы ня мелі. (Гэта значыць, што Кітайцы пачынаюць разумець, што яны ня хто іншы, а Кітайцы. Бо і ў іх таксама як і ў нас да гэтага часу мала хто знаў хто ён). Трэба мець пэўнасьць, — кажа пан дэлегат, — што сучаснае палажэньне ў Кітаі ёсьць пераходным этапам — гэта ня ёсьць выраджэньне (упадак), а наадварот — аздараўленьнем дзяржавы“.

„Ці доўга працягнецца няладнасьць у Кітаі — цяжка дагадацца, аднак-жа ёсьць праявы якія гавораць аб адраджэньні Кітайскага народу“, гэтак закончвае свой адказ п. дэлегат па адным пытаньні.

Калі ў тым, здавалася-б пекле, якое пануе цяпер у Кітаі, людзі, зусім безстаронныя, відзяць добрыя праявы, калі кітайскае няшчасьце стварае шчасьце, дык гэта самае і нам дае надзею, што і мы, таксама церпім нязгоды і гора, толькі для лепшае будучыны. А гэта вось, асабліва хацелася і падчыркнуць канчаючы сёньняшні агляд.

**Зыркі.**

---

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Польскія бандыты ўва Францыі.

27 лістападу захончыўся 2-тыднёвы судовы працэс шайкі польскіх бандытаў, якія ў працягу некалькі гадоў тэрарызавалі францускіх жыхараў у паўночных дэпартамантах (ваяводзтвах) Францыі. З ліку 11 падсудных—двох засудзілі на кару сьмерці, двох—на вечную катаргу, трох—па 10 гадоў катаргі, а апошніх—ад 4 да 5 гадоў вастрогу. Сябра шайкі—жанчына-полька прыгаворана на 8 гадоў вастрогу.

### Амэрыканская пазычка Саветам.

Ад амэрыканскай фірмы Фернуара савецкі ўрад атрымаў крэдыт—40 мільёнаў даляраў на адбудову мэталургічнага заводу ў Данецкім басэйне. Са свайго боку савецкі ўрад дае на гэтую мэту 50 мільёнаў рублёў. За атрыманы крэдыт Саветы даюць амэрыканцам канцэсію ў Крывым Рогу і Данецкім Акрузе.

---

*СЯЛЯНЕ! Прысылайце падпіску, падахвочвайце другіх прысылаць грошы і пашырайце „Сялянскую Ніву!“*

---

ЯКУБ КОЛАС. 20)

# Сымон Музыка.

**Поэма.**

(Працяг).

Уміраў дуб, верх быў голы,
Тоўсты комель яго—кволы,
Шум лістоў яго заціх,
І была на ім галінка,
Маладзенькая дзяцінка,
На галінцы—жалудок.
—Я, сыночку, уміраю,
Я ў табе надзеі маю:
Падтрымай наш род, сынок!
Ты—мая адна надзея.—
Сына песьціць дуб і грэе,
Сок апошні аддае.
На сухіх галінках дуба
Вольнай пташцы сесьці люба,
Пташка песьні там пяе.
Раз паны там палявалі
І пад дубам балявалі,
Справы робячы свае.
Ох, ліха-ж ты, сіла ўража!
Хтось з іх жолуд той заўважыў.
— Ну, ці знойдзецца стралец,
Хто галінку зьніжа куляй?—
Для іх забаўкі і гулі,
А дуб чуе свой канец.
Вось адзін з іх абабраўся,
Стрэліў—дуб той захістаўся,
Чуць заслаўшыся дымком.
Куля роўна паляцела
І зрабіла злое дзела—
Зьбіла гольку з жалудком!
І галінка ў рэчку ўпала,
І вада яе пагнала
Разам з дубавым сынком.
Плача голька, жолуд ные;
Бераг рэчкі жальба крые;
А тым плачам чужаніцы
Забаўляліся, дурніцы,
Спрытнасьць хвалячы сваю.
Эх, заплача паляўнічы:
Стрэліў ён не па той дзічы—
Жолуд вырасьце ў гаю...
Бура ўсходзіцца завея,
Згіне гэта пыха,
Бо хто зло, няпраўду сее,
Пажынае ліха“.
„Ой, вяліка воля княжа:
Тое сьвята, што князь скажа.
Князь магутны, асьвячоны,
Скарбы ў князя нязьлічоны;
Аднаго-ж і князь ня можа,
Хоць казаць пра то нягожа:
Князь ня мае волі-ўлады
Вольнай думцы даць парады.
Думка ходзіць, дзе захоча:
Ад зямлі да зор і сонца
Няма думкам забаронцы.
Думка праўду кажа ў вочы
І вялікім і малому—
Гора будзе твайму дому!

Сьвежы, іншы вецер вее,
Хоць ён вее ціха.
А хто зло-няпраўду сее,
Той зжынае ліха“.

II

. . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . .

Беглі дні, міналі леты,
Так прашло тут тры гады...
Эх, музыка, малады!
Не дасяг ты свае мэты.
Жыў Сымонка тут надзеяй,
І так марыў ён аб тым,
Што панове-дабрадзеі
Ласку будуць мець над ім
І навучаць чытаць кнігі,
Ноты тыя разбіраць,
Сам-бы ноты стаў складаць,—
Граў-бы ён ня горш Галыгі.
Ен аб гэтым думаў многа,
З дзедам радзіўся ня раз,
Ды, вядома, у старога
Быў старэцкі і адказ:
— Кінь ты, хлопча, абяцадлы!
Лепей плюнь на іх, эгэ-ж!
Кнігі розум сушаць, падлы:
У сухоты ты ўпадзеш.
Знаў я кніжніка такога,
Што ўсё ведаць-знаць хацеў,
Начытаўся гэтак многа,
Што ў скурат ён ссох, нябога.
І што-ж думаў?—звар'яцеў!...
Дый вучыць цябе хто стане?...
Дзе ты бачыў! ты мужык,
Трэба выламаць язык,
Тваю-ж мову апаганяць,
Хай зямля іх тут апране!—
Дзед старога ўжо закалу,
Зразумаць ня можа дзед
Прагавітага запалу
Пасягнуць навукі сьвет.
І надумаўся хлапчына
Да Галыгі завітаць,
Хоць ён жорсткі, як дубіна,
І станоўка ўжо прыстаць,
Каб вучыў яго чытаць,
Хоць у тыдзень, ну, хвіліну.
Вось, набраўшыся адвагі,
Ён ідзе туды цішком,
А Галыга да сярмягі
Зварачаецца сьмяшком:
— Ну, што скажа, пан музыка,
Саматужны мой Шопэн?
— Просьба, пане, і вяліка...
— Што, пакрыўдзіў стары „тэн?“
— Не: прышоў прасіць васпана
Паказаць навуку мне:
Без навукі жыць пагана;
Яе сьню, панок, у сьне—
Так хачу я знаць навуку,
За яе-б аддаў жыцьцё...
Хоць-бы першае знацьцё.—
І цалуе пана ў руку.
— Пакажы мне, панок, ноты,
Растлумач мне, як і што;
А за панскія турботы
Хай жыве пан гадоў сто.
— Сто гадоў!... ня кепска плата.
Што-ж, расьпіску дай ад Бога;
Сто гадоў—яму нічога:
У яго гадоў багата...
Справа добрая—навука.
Славу, хлеб яна дае...
Але, хлопча, дзе парука,
Што ня згінеш праз яе?
Ты разумен без навукі:
Помніш, князю што казаў?
Ты-б язык свой прытрымаў—
За такія, браце, штукі
У мех садзяць, каб ты знаў!
Вось затым сама прырода
Вас пускае сьлепаком,
Каб з вас менша была шкода.
Раз мужык—будзь мужыком,
Маеш хлеб і—жуй цішком,
Будзь даволен сваёй доляй.—
Што-ж з ім гутарыць тут болей?
Сорам хлопцу—так аплёван
У жаданьнях, у імкненьнях!
Як-жа так, каб у праменьнях
Ды зьнявагі бруд быў схован?
Не: праменьні чысты самі,
Струны чысты, дух што будзяць,
Але людзі і іх брудзяць.

Жадаючы паправіць сваіх курэй, трэба купляць на вёсцы ад далейшых суседзяў пеўняў, выбіраючы іх найвялікшых (але ня грубых) і найпрыгажэйшых.

З заграічных парад курэй найлепш нясуцца італьянскія і гамбурскія. Першыя ў год нясуць каля 180 яек, а другія—200; першыя даюць яйкі вялікія і самі важаць фунт. 5—6, а другія зносяць яйкі меншыя і самі важаць мала больш нашых курэй.

Гэтыя пароды курэй самі па сабе далікатныя і вымагаюць добрага і асобнага дагляду, што перашкаджае разьвіцьцю іх у нас, але нашым гаспадаром завесьці ў сябе мешаніну ад іх вельмі пажадана. Ад гэтае мешаніны бываюць куры і носкія і трывалыя пры нашых кліматычных і іншых умовах.

Галоўны заган нашых курачак той, што яны даюць вельмі дробныя яйкі, якія не ахвотна купляюцца купцамі, асабліва для заграніцы. Мешаніна тут згладжвае гэты заган.

(канчатак будзе)

**Гаспадар.**

# Пісьмо ў Рэдакцыю

Беларускі Пасольскі Клюб, канчаючы сваю саймовую працу, атрымаў ліст ад свайго калегі пасла Барана, які просіць зьмясьціць у „Сялянскай Ніве“.

**У Беларускі Пасольскі Клюб.**

Прасядзеўшы 3 гады і 7 месяцаў у турме і будучы звольнены, я да гэтага часу ня прыступаў ні да партыі, ні да палітычнае працы. Будучы сябрам Беларускага Пасольскага Клюбу я, дзякуючы прычынам незалежным ад мяне, ня мог у роўнай меры браць удзел у працы, бо па выхадзе з турмы лічыўся фактычна паслом, а юрыдычна—катаржнікам...

Цяжкі крыж за працоўны люд Беларускі нёс я ў працягу 3 гадоў і 7 мес. і зьневажаны, быў звольнены з турмы без праў грамадзянства.

Змушаны забраць голас і публічна прынясьці падзяку Клюбу за тую матэр'яльную дапамогу падчас адбываньня кары, якую мне даваў Клюб, бо пры тых варунках турэмных ад 1923 па 1925 г., пры адсутнасьці гэтай дапамогі—я памёр-бы.

Не забіраючы голасу ў справах грамадзкіх і палітычных, я пазволю цяпер сказаць некалькі слоў што да заклiку „Сял. Нівы“ аб аб'еднаньні беларускіх сілаў пад час выбараў.

Сьцьвярджаю, што падобны крок ёсьць рацыянальны і павінен быць узяты пад увагу ўсімі, каму дарагім ёсьць адраджэньне многапакутнага сярмяжнага Беларускага Народу. Можа гэта аб'еднаньне дасьць можнасьць на будучыну стварыць штось здаровае ў беларускім жыцьці і вывядзе яго з сучаснагага лябірынту.

Асабіста далучаюся да апэлю „Сял. Нівы“ і заклікаю іншых пайсьці гэтай дарогай.

*С. Баран*, пасол Сойму.

Варшава. 25.XI. 1927 г.

*P. S.* Усім калегам па Клюбу жадаю шчасьця і няхай не памінаюць мяне ліхам, а сваіх выбаршчыкаў прашу выбачэньня, калі ў сваей працы кароткай—мо' ня добра бараніў іх інтарэсы.

*С. Баран.*

# Вясткі з Краю.

## Скандальны канец пэпэсаўскіх гастралёраў.

(Нясьвіскі павет).

П. П. С. у Нясьвіскім павеце, калі не на заўсёды, дык на доўгі час згубіла свае ўплывы. Сябры гэтае партыі аказаліся ня толькі звычайнымі правакатарамі, пхаючымі ў вастрогі нашых сялян, але яшчэ... звычайнымі зладзеямі.

Кіруючы павятоваю касаю хворых у Нясьвіжу і яе аддзелу ў Клецку, яны доўга падраблялі рожныя грашовыя паперы і квіты пакуль не „засыпаліся“. Кантрольныя ўлады гэтае грамадзкае ўстановы, якую пэпэсы перавярнулі ў сваю партыйную крамку, зрабілі раптоўную рэвізію, выкрываючы вялікія грашовыя недахопы. Пэпэсы, на чале з Валеўскім (кіраўн. пав. касы хворых у Нясьвіжы) і Корфам (кіраўніком аддзелу ў Клецку), звольнены з пасадаў і цягнуцца да судовае адказнасьці.

Каб выйсьці са свайго прыкрага палажэньня пэпэсы зрабілі некалькі, па праўдзе бальшавіцкіх мітынгаў у Нясьвіжы, Клецку, Сіняўцы і г. д., за што атрымалі з рук свайго партыйнага начальства высокую нагароду—чырвоны сьцяг.

Але гэтыя мітынгі павялічылі агульняе нездаволеньне пэпэсаўцамі. Тагды, ратуючы сваю скуру, арашыліся яны ўцякаць і куды-ж?

— „Do Sowdepii“!

Аднаго адвячорка склад пэпэсаў-таварышаў з Корфа, Міньковіча і Карпенюка, пакінуўшы свой чырвоны сьцяг на самаволю лёсу (яго цяпер забрала гаспадыня кватэры камітэту ППС. у Клецку, бо за кватэру пэпэсы не плацілі больш за поўгода) і адправіліся пад граніцу. І вось... „komunistyczny raj“ быў гэтакім блізкім, але... на самай граніцы польская пагранічная стража—хоп іх за каўнер, ды на стражніцу, адтуль у Нясьвіж у вастрог і... канец кар'еры пэпэсаўскіх гастралёраў у нашым павеце.

І добра! Цяпер ужо можна сьмела сказаць, што ППС згубіла свае ўплывы ня толькі сярод Беларусаў, але і сярод сваіх польскіх „towarzyszy“.

Мужычок.

## Польская культура ў Паставах.

(Сьвенцяншчына).

У нас, у Паставах, ёсьць, так званае, „Кола Польскае Культуры“. Пабудаваўся і „Народны Дом“ з адпаведню саляю і сцэнаю. Нажаль-жа, мы толькі можам пахваліцца будынінаю, а не працаю ў гэтым доме.

20 лістападу г. г. у „Народным Доме“ быў спэктакль. Ігралі польскую штуку „Stoganak“. Ігра распачалася цераз тры гадзіны пасьля тэрміну, выстаўленага ў абвестках. Перад ігрою-ж, нехта, як казалі рэдактар „Культуры“, меў поўгадзінную „аналітычную“ прамову, але ў гэтай прамове гаварыў ён і аб аўтамабілях, і аб аэраплянах і аб дэмакратызьме... і толькі пасьля прамовы распачалося „прадстаўленьне“. Ледзьве дачакаліся глядзельнікі гэтага прадстаўленьня, але канца дачакацца не хапіла цярплівасьці. Ігра артыстаў да крайнасьці зданэрвавала глядзельнікаў, бо яны ня ведалі нават сваіх ролеў. У ігры былі такія паўзы, што гледзельнікі стукалі нагамі, каб скарэй выходзіла патрэбная асоба („артыст“) на сцэну. На сцэне-ж „артысты“ перарывалі сваю размову выклікамі „цішэй“, скіраванымі да суфлёра, які ўжо надта стараўся суфлёраваць. Па аканчэньні спэктаклю многія з глядзельнікаў пыталіся адзін у другога, ці зразумеў што хоць трохі... Адным словам, паказалі нам польскі культурны... балаган.

Пры гэтым доме ёсьць і бібліатэка-чытальня, але мусіць для „сваіх“ панкоў і дэфэнзыўшчыкаў, бо ніводнай беларускай кніжкі і газэты ў гэтай бібліатэцы няма.

Добра было-б каб нашыя паважаныя рэдакцыі часопісяў „Сялянская Ніва“ і „Biełaruskaja Krynica“ прысылалі свае газэткі ў пастаўскі „Dom Ludowy“.

Прысутны Сусед.

## Ня гэтак робіце паны радныя!

Ужо пісалася калісьці, як здрадзіла гмінная рада м. Сяльца сваіх выбаршчыкаў—сялян, як ашукала іх надзеі. Прывяду лішні факт гэтае здрады.

Нядаўна ў Варшаве адбудзецца зьезд прадстаўнікоў з кожнае гміны. Кожны прадстаўнік павінен на гэтым зьезьдзе зрабіць даклад аб патрэбах і балячках сваей гміны.

Вось-жа, на гэты зьезд гмінная Сялецкая рада выбрала... п. Чахоўскага, уласьніка маёнтку—і гэты панок мае прадстаўляць сабою цэлую гміну!

Што далей, то гарэй, паны радныя. Бой.

## Тыгравы пастарунак.

(м. Гэрманавічы, Дзісьненскага павету).

14 лістападу Гэрманавіцкая паліцыя паклікала ў пастарунак двух хлапцоў—братоў з вёскі Мікіцёнак для збаданьня ў справе „нарушэньня супакою на польскім спэктаклю 6 лістапада г. г.“ Баданьне было звычайнае: хлапцоў скулі, прывязалі да сьцяны і білі... Але вынікі дык вось якія. Аднаму брату ад „баданьня“ вышла вока з вачадолу, а другому — вышлі кішкі праз прабітую на „баданьні“ пляву...

Хоць гэтая справа пашла да пракурора, але паліцыя кажа: „Z tego nic nie będzie“.

Нічога дзіўнага, што „nic nie będzie“, мы ўжо добра пераканаліся. Я. Закінуты.

## Перавыбары гміннае рады.

(Ланьская гміна, Нясьвіскага пав.).

З прычыны скасаваньня Лесунаўскае гміны і далучэньня яе тэрыторыі да суседніх гмінаў, між іншым і да Ланьскае, 4-га лістападу адбыліся перавыбары Ланьскае гміннае рады. На выбары зьявілася 87 кандыдатаў. 13 кандыдатаў, пераважна з сялян—бўларусаў, зусім не зьявіліся, а вось асаднікі і шляхта, якая лічыць сябе палякамі, дык як адзін былі на выбарах, выстаўлена аж 10 сьпіскаў: 8—сялянскіх, 1—асадніцкі і 1—шляхэцкі. 3 сялянскія сьпіскі зусім праваліліся, 3 сьпіскі правялі па 3 радных, адзін (пяты) 4 радных, а сьпісак выстаўлены арганізатарам Булгаём з вёскі Кіжаўшчыны правёў перад гэтым ужо выбраным, войта Ліневіча. Асаднікі і шляхта правялі па аднаму радному. Гэтакім парадкам склад цяперашніх радных аказаўся бадай такім, які быў першы, выбраны 19-га чэрвеня. У першым складзе ня было аніводнага асадніка, а цяпер пралезьлі.

Зорка.

# Усячына.

## Салодкія мары...

Рыжская расейская газэта „Сегодня“ у № 264 за 23 лістападу г. г. падае „рэзалюцыі расейскіх нафтапрамысловцаў“, якія адбылі паседжаньне ў Парыжы пад маршалкоўствам былага вялікага капіталістага Ліанозава.

Між гэтымі рэзалюцыямі цікавы наступныя:

1) Рашуча пратэставаць проціў імкненьня асобных фінансавых і прамысловых групаў Эўропы і Амэрыкі, а такжа некаторых іх урадавых установаў легалізаваць куплю ў Радаў **нашае нафты** (курсыў наш).

2) Фармальна заявіць і аб'явіць у прэсе, што мы захоўваем за сабою права шукаць у будучыне як простых, так і субочных стратаў з тых, хто купляе ці будзе купляць **абрабаваную** ў нас **нашую нафту** і яе прадукты.

Ужо дзесяць гадоў прайшло, а ня могуць гэтыя „нафтапрамыслоўцы“ забыцца аб тым, як добра жылося ім, калі **іхняю** была ўся нафта ў Расеі. Дзесяць гадоў жывуць салодкімі марамі!..

# Куток сьмеху.

## Новая машына.

Сабраўшыся на вячоркі сяляне гаманілі аб розных выпадках з свайго жыцьця.

— Я чуў, — кажа Сьцяпан — што Янук да хіраманта езьдзіў.... Янук, гэй Янук! Як-жа там твой хірамант?

— Хірамант?

— Але!

— Казаў ён, што нехта выдумаў такую машыну каторая да—чыста вымеце з бюраў ужэндаў усіх дармаедаў—адказаў Янка.—Ах, як-жа гэта будзе добра, — раптам загаманілі ўсе сяляне. Янка Закінуты.

## У чатырох не паднімуць.

Пры вельмі тоўстай бэльцы стаіць чатырох малайцоў і ківаюць галавамі.

— Што за бяда ў вас? — пытае праходзіўшы сялянін.

— Бяда, дзядзька — адказвае адзін з малайцоў ня можам бэлькі падняць.

— Ня ўжо? — дзівіцца сялянін.

— Надта цяжкая. Кожны з нас пробаваў і ня мог падняць.

— І ў чатырох паднімалі?

— Чатырох? На што? Кожнаму і бяз гэтага ведама ўжо, што цяжкая — адказаў маладзец. Я. Закінуты.

## Баба і шляхцянка (жарт).

Гразь на рынку перайшоўшы,
Баба ногі абтрахала
І, прыпадкам, не'к шляхцянцы
На падол капляй папала.
„Ах ты, хамаўка праклята!“
Тая лае так кабету:
„Мне спаскудзіла спадніцу,
Каб ня бачыла ты сьвету!“
„Дарма лаешся, паненка“,
Баба кажа абтрахнуўшысь:
„Бач, балота, гразь на рынку...
Бабы-ж ходзяць падаткнуўшысь“.
„Не магу я падтыкацца“,
Ня спыняецца шляхцянка:
„Бо пад верхняю спадніцай
У мяне „пяратыканка“!

Улад.-Ініцкі.



*Сяляне! Запісвайцеся у Беларускі Сялянскі Саюз!*

Рэдактар і выдавец А. Герасімчук. Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.